# БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ

BELARUSIAN ABROAD

BIEŁARUS NA ČUŽYNIE

Беларускі штомесячнік ў Лёндане. Заснаваны ў 1947 г. Адноўлены ў 2009.

студзень 2010 №2 (44)




**Другі нумар адноўленага БНЧ прысьвячаецца памяці Веры Рыч (1936–2009), перакладчыцы беларускай літаратуры, якая зрабіла вялікі ўнёсак у пашырэньне інфармацыі пра Беларусь і беларускую літаратуру ў замежжы. Вера Рыч адыйшла ў лепшы сьвет напярэдадні Калядаў.**

***

## НАВІНЫ

### Памерла Вера Рыч

Яе першы пераклад на ангельскую зь беларускай мовы быў надрукаваны ў мюнхэнскай газэце "Бацькаўшчына" ў 1957 годзе. Вера Рыч пераклала Купалу, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Цётку, Бядулю, Арсеньневу, Крапіву, Геніюш, Гілевіча, Барадуліна, Іпатаву ды іншых.

Яна нарадзілася 24 красавіка 1936 году і пражыла амаль усё жыцьцё ў паўночным Лёндане. У 1960 годзе выйшаў яе першы зборнік паэзіі "Outlines".

У 1971 годзе пад патранатам UNESCO выйшла першая ў сьвеце анталёгія беларускай паэзіі на заходняй мове "Like Water, Like Fire: An Anthology of Byelorussian Poetry from 1828 to the Present Day". Але ў Савецкім Саюзе гэтую кнігу выдалілі з продажу. У 1977 годзе выйшаў пераклад "Тараса на Парнасе" (пераклалі Вера Рыч ды Арнольд Макмілін).

У Беларусь яна трапіла толькі ў 1991 годзе. Пасьля яна прыяжджала ў Беларусь раз на год ці паўгоду.

У 2004 годзе выйшаў новы зборнік беларускай паэзіі ў перакладзе Веры Рыч "Poems on Liberty: Reflections for Belarus".

У 1970—1990 гады Вера Рыч шчыльна супрацоўнічала з дэмакратычнымі рухамі і рухамі ў абарону правоў чалавека ў Савецкім Саюзе. Працавала ў Польшчы і Вугоршчыне.

Сярод яе ўзнагародаў — прэмія імя Івана Франка ў гонар 40-гадовага служэньня ўкраінскай літаратуры. Вера Рыч працавала над перакладам "Новай зямлі" Якуба Коласа.

// паводле Радыё Свабода

### Беларусы Лёндана адзначылі Каляды

Грэка-каталіцкае набажэнства адбылося 24 сьнежня ў Беларускім рэлігійна-культурніцкім цэнтры. Набажэнства адслужылі айцец Аляксандар Надсан і айцец Сяргей Стасевіч. Па заканчэньні адбылася сьвяточная вячэра.

### Зьмяніліся цэны беларускіх візаў для грамадзянаў Вялікае Брытаніі

З пачатку 2010 г. у дачыненьні да грамадзянаў Вялікае Брытаніі прымяняюцца стаўкі консульскіх збораў, аналягічныя стаўкам, якія бяруцца брытанскім бокам у дачыненьні да грамадзянаў Беларусі: $78 - за транзытную візу (без уліку колькасьці ўездаў), $114 - за кароткатэрміновую візу (без уліку колькасьці ўездаў), $366 - за доўгатэрміновую візу. Пры афармленьні ў аэрапорце ў Беларусі віза каштуе €180.

// паводле прэс-рэлізу МЗС РБ

## АНОНСЫ ПАДЗЕЯЎ

**Агульны сход**
**Англа-беларускага таварыства**

**Калі: 30/01/2010**

**Дзе: Беларускі рэлігійна-культурны цэнтар, 39 Holden Road, London N12 8HS.**

У суботу, 30 студзеня, у памяшканьні Беларускага рэлігійна-культурнага цэнтру адбудзецца штогадовы сход Англа-беларускага таварыства. А 14:00 будзе адслужана набажэнства за супакой членаў таварыства, якія памерлі за мінулы год. А 14:30 пачнецца сход таварыства, з разглядам справаздачы за мінулы год, выбарамі новага кіраўніцтва, зацьверджаньнем праграмы на наступны год. Пасьля сходу, прыкладна а 15:30, адбудзецца прагляд кінафільма. Мерапрыемства адкрытае для гасьцей.

## АБВЕСТКІ

**Беларускія набажэнствы**

Беларускія грэка-каталіцкія набажэнствы адбываюцца ў Беларускім культурна-рэлігійным цэнтры штодня. Акрамя нядзелі, а 8:00 і 18:00. У нядзелю набажэнства пачынаецца а 10:30 раніцы. Па заканчэньні нядзельнага набажэнства – невялікае беларускае чаепіцьце. Усе жадаючыя сардэчна запрашаюцца.

Беларускія праваслаўныя набажэнствы адбываюцца па папярэдныя дамоўленасьці па адрасе Holy Innocents' Church, Paddenswick Road, London W6 0UB (м. Ravenscourt Park). Кантакт: 020 76099982 (сп-ня Алена Сенька).

Рэгулярныя набажэнствы Ўкраінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Вялікай Брытаніі адбываюцца ў Катэдральным саборы Перамяненьня, 1a Newton Ave, Acton, London W3 8AJ. Тэл. 020 899 246 89, (протаярэй Яўген Стасюк, uaocingb@hotmail.com)

**Шукаецца рэгент для беларускага хору**

Існуе ініцыятыва з прыкладна шасьці чалавек стварыць у Лёндане беларускі хор. Шукаем адзінадумцаў і чалавека з музычнай адукацыяй, які мог бы быць кіраўніком хору. Просім кантактаваць з рэдакцыяй **БНЧ**.

## КАРЫСНЫЯ РЭСУРСЫ

belarusians.co.uk – "Беларусы ў Вялікабрытаніі", інфармацыйны блёг

skaryna.org - Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане

anglobelarus.org.uk - Ангельска-беларускае таварыства

groups.google.com/group/Belondon - Рассылка для беларусаў у Лёндане

community.livejournal.com/belorusy_uk - Суполка брытанскіх беларусаў у ЖЖ

belarusdigest.com - Belarus Digest, дайджэст беларускіх навінаў у міжнароднай прэсе, вядзецца беларусамі зь Лёндану і ЗША

Суполкі на Facebook: **Anglo-Belarusian Society**, **Belarusians in the UK**

Суполка на Вконтакте.ru: **Belarusians in the UK ‡ Беларусы ў Вялікабрытаніі** (vkontakte.ru/club14078415 )

## РЭДАКЦЫЯ

Алесь Чайчыц alexander@cajcyc.org
Яраслаў Крывой
а. Сяргей Стасевіч